


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

23 жніўня 2002 года
№ 34 (383)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Экалагічныя прэміі

**ВІЛЕЙКА**. 600 тысяч рублёў атрымала Пагосцкая базавая школа за першае месца ў абласным конкурсе, арганізаваным Мінскім абласным камітэтам па экалогіі і ахове навакольнага асяроддзя.

Такую ж суму — 600 тысяч рублёў — і ганаровую грамату атрымаў і вілейскі дзіцячы сад №7.

**Марыя МІКАЛАЕВА.**

### Шаленства ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ**. На мінулым тыдні ў саўгасе "Лылойці" упершыню ў раёне зафіксаваныя выпадкі шаленства сярод буйной рагатай жывёлы.

Раптоўна захварэла дзевяць саўгасных цялушак, якія пасвіліся ля вёскі Леановічы. Мінская абласная лабараторыя ўстанавіла шаленства ў адной з іх. Астатнія ж нечым атруціліся. Усіх цялушак забілі, спалілі, а рэштткі закапалі.

20 жніўня на ферме "Ністашкі" ад шаленства пала карова. Крыніца хваробы ў абодвух выпадках невядомая.

**Галіна АНТОНАВА.**

### Юрысты пераехалі

**ВАЛОЖЫН**. Адзіная гарадская юрыдычная кансультацыя пераехала ў будынак ваенкамата.

Раней кансультацыя, у якой працуюць тры юрысты, месцілася на цокальным паверсе жылога дома. Рамонт зрабілі за кошт Мінскай абласной калегіі адвакатаў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Выстаўка Харашэвіча

**МАЛАДЗЕЧНА**. 27 жніўня а 12-й гадзіне ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна адкрыецца выстаўка твораў маладзечанскага мастака Кастуся Харашэвіча.

Яна прымеркавана да 75-годдзя мастака. Гледачы ўбачаць звыш сарака карцін з фондаў Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

**Ірына РАБУШКА.**

### Пасвяціў дык пасвяціў

**МЯДЗЕЛ**. У нядзелю ў вёсцы Лужы Сваткаўскага сельсавета адбыўся пажар.

Згарэў хлеў, пацярпеў і дом, што знаходзіўся пад адным дахам з хлявом. Аказалася, што раніцою гаспадар вырашыў пасвяціць сабе, чыркнуў запалкай... А ў хляве знаходзілася сена, якое і пачало гарэць.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 24 жніўня

**Мінск**
8°С (уначы)
20°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
23°С (удзень)



Нядзеля, 25 жніўня

**Мінск**
10°С (уначы)
23°С (удзень)



**Вільня**
11°С (уначы)
24°С (удзень)



# Гарадскі парк захварэў

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэці тыдзень на Цэнтральнай плошчы працуе чэшскі Луна-парк "Прага". Як адчувае сябе ў суседстве з замежным візіцёрам парк гарадскі?**

Гаворыць яго дырэктар **Ігар Грабоўскі**:

— Мы не жывём. Памерлі ўжо...

Каб чэхі не прыязджалі, было б лепш. У наш парк пакатацца на арэлях цяпер амаль ніхто не прыходзіць.

Гадавы план па платных паслугах не выканаем, так як і летась. Сёлета ён складае 30 мільёнаў рублёў, летась быў 18 мільёнаў.

Білеты на атракцыёны падаражэлі на 100-200 рублёў. Па буднях выручка складае 5-7 тысяч рублёў, па выхадных – крыху больш. Працуем па 7 гадзін у будні дні і па 12 — у выхадныя.

**— Як думаеце, чаму Луна-парк карыстаецца папулярнасцю. Можа, з-за таго, што арэлі ў маладзечанскім парку не абнаўляліся 10 гадоў? Дарэчы, яны выпрацавалі свой тэрмін.**

— Адзін з кіраўнікоў чэшскага парку, з якім я нядаўна сустракаўся, сказаў, што саве заўсёды надакучвае. Мабыць, яго праўда.

Між іншым, у нашым парку больш арэляў для дзяцей. Чэхі бяруць атракцыёнамі для дарослых.

**— Недахоп наведвальнікаў адбіваецца на заработнай плаце?**

— Так. За дзевяць гадоў маёй работы на гэтай пасадзе былі складанасці з грашыма ў 1998 і 2000 гадах. Цяпер разоў у пяць цяжэй. А ў мяне дзевяць пастаянных супрацоўнікаў і 25 сезонных. Зарплата ад 30 да 60 тысяч рублёў.

Самым прыбытковым месяцам лічыцца май.

Цяперашняя спякота адбіла ў нас кліентаў ужо ў чэрвені.

**— Нехта нарабіў шмат зла, падпаліўшы 10 жніўня драўляную касу, што будавалася.**

— Не разумею, каму гэта патрэбна, як усё адбылося. Вартаўнік у палове чацвёртай раніцы абыходзіў тэрыторыю – усё было спакойна. Вярнуўся ў памяшканне і раптам пачуў трэск. Гэта ўзрываўся шыфер. Згарэла шэсць мільёнаў, якія я ў мінулым годзе ўклаў на набыццё дрэва.

**— Хто адгукнуўся на вашу бяду?**

— Чэшскі Луна-парк выдзеліў нам мільён рублёў. Магчыма, дадуць яшчэ адзін.

**— На гэты год гарвыканкам запланаваў праектаванне і будаўніцтва крытай канцэртнай эстрады і шматфункцыянальнага двухпавярховага будынка ў зоне атракцыёнаў. Наогул, у 2000 годзе гарвыканкам зацвердзіў план паляпшэння ўмоў у гарпарку да 2005 года. Нават збіраліся набыць ланцужковую карусель для дарослых і кола агляду.**

— Эскіз крытай эстрады захоўваецца ў старшыні гарвыканкома **Мікалая Чурсіна**. Гэта вельмі прыгожа! Павінны былі рэканструяваць пляцоўку ля гары, дзе заўсёды праходзяць святы, зрабіць крыты навес для гледачоў і артыстаў.

На жаль, у лютым гэты план адмянілі. Цяпер нічога не плануем.

**— Ці папраўляюць фінансавае становішча святы, якія праводзяцца ў гарпарку? Ці ёсць яшчэ нейкія іншыя крыніцы даходаў?**

— Святы — толькі дзяржаўныя. Напрыклад, 1 і 9 Мая, Дзень незалежнасці.

Напэўна, прыцягнулі б наведвальнікаў выступленні вядомых артыстаў. Белдзяржфілармонія за выступленне Цімахановіча з Паплаўскай прапанавала заплаціць звыш аднаго мільёна рублёў. А дзе ўзяць такія грошы? Ды артысты б і не паехалі сюды: апаратуры няма, крытай сцэны – таксама.

Гульнявыя аўтаматы і прыстаўкі, што размешчаны ў адміністрацыйным будынку, выручаюць, але не надта. У нас самыя нізкія цэны ў горадзе. Але замест 5-гадовага тэрміну выкарыстання, аўтаматы адпрацавалі па 15 гадоў.

**— Дрэвы ў парку з'явіліся таксама не ўчора – іх пасадзілі 52 гады таму. Цяпер яны сталі вялікімі і магутнымі, да таго ж вельмі густа растуць. Гэта можа быць небяспечным для людзей?**

— Яшчэ адна турбота. З парку атрымаўся лес. Тут расце каля 7 тысяч дрэў. Трэба рабіць санітарную высечку. Падчас моцнага ветру яны ламаюцца. Усе дрэвы, акрамя лістоўніцы, хворыя на рак.

Які ж доктар зможа "вылечыць" парк?


Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Якім убачыць гарадскі парк трохгадовы Антон Цярэшка і шасцігадовая Таня Іода ў дзень свайго паўналецця, невядома...**

### Што выгадней гарадской казне?

Якая ж карысць гораду ад маладзечанскага гарадскога парку і чэшскага Луна-парка?

Галоўны бухгалтар гарадскога парку **Раіса Вермеiвіч**:

— За першае паўгоддзе гарадскі парк выручыў 16,4 мільёна рублёў, якія пайшлі ў гарадскі бюджэт. Горад са свайго бюджэту на ўтрыманне парку выдзеліў тры мільёны рублёў замест пяці прадугледжаных.

Намеснік начальніка аддзела падатковай інспекцыі па Маладзечну **Віталь Скапец**:

— Перад пачаткам работы чэшскі Луна-парк заплаціў у выглядзе адзінага падатку ў гарадскі бюджэт 698 тысяч 926 рублёў.

Загадчыца эканамічнага аддзела вытворчага аб'яднання "Камунальнік" **Галіна Сарока**:

— Луна-парк з намі заключыў дагавор на вываз смецця. Мы прыбіраем, Луна-парк плаціць. За тры тыдні атрымліваецца 200-250 тысяч рублёў.

Падрыхтавала
**Ірына РАБУШКА.**

# Японскі дыпламат прыехаў у Маладзечна


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Часовы паверaны Японіі ў Беларусі Акіра Татэяма. Маладзечна, 21 жніўня.**

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду ў горад прыехаў часовы паверaны Японіі ў Беларусі Акіра Татэяма.**

Мэта паездкі – абмеркаванне праекта пастаўкі медыцынскага абсталявання ў кардыялагічнае аддзяленне гарадской бальніцы. Ажыццявіць праект плануецца за грошы японскага ўрада.

Суправаджаў пана Акіру Татэяму наш зямляк – Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Японіі і Філіпінах **Пётр Краўчанка**. Спачатку госці сустрэліся з кіраўніцтвам Маладзечанскага гарвыканкома.

Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** і першы намеснік **Яфім Ідэльчык** пазнаёмілі госця з горадам і яго інфраструктурай. Акіру Татэяму цікавіла колькасць замежнага капіталу, які ўкладзены ў эканоміку горада, развіццё малога і сярэдняга бізнесу і колькасць сумесных і замежных прадпрыемстваў. Японскі пасол расказаў, што яго зямляк-прадпрымальнік хоча адкрыць у Беларусі або Прыбалтыцы прадпрыемства, якое б займалася дрэваапрацоўкай. М. Чурсін і Я. Ідэльчык пераконвалі, што ў Маладзечне для гэтага створаныя ўсе ўмовы. Кіраўнікі гарвыканкома паабяцалі садзейнічаць у развіцці праекта. Дапаможа і Пётр Краўчанка. Акіра Татэяма плануе прыехаць у Мінск у лістападзе, тады ж і стане вядома, ці будзе ў горадзе беларуска-японскае прадпрыемства.

Акрамя гарвыканкома японскі пасол наведаў школу мастацтваў, музычнае вучылішча і медыцынскія ўстановы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ РЭХА НАШЫХ ПУБЛІКАЦЫЙ

## Спадчына-заложніца?!

У 31-м нумары "РГ" звярнуў увагу на матэрыял Віталя Аляксандрава "Музей трывогі нашай". Падумалася: "Гэта ж трэба, усё, як і ў нас, у дзяржархіве!".

Мы калегі па няшчасцю: бо і заробкі супрацоўнікаў такія ж, і тыя ж праблемы з захаваннем цікавых і важных гістарычных дакументаў-фондаў. Занальны дзяржархіў у Маладзечне наогул размешчаны ў будынку, дзе пры панскай Польшчы і Саветах была турма.

Калі ў музейшчыкаў ёсць першы паверх будынка ці другі, то ў нас, архіўшчыкаў, — ні тое-ні сёе. Збудаванне асела, і важная дзяржаўная ўстанова, куды амаль штодзённа звяртаюцца людзі з Вілейскага, Маладзечанскага, Мядзельскага і Валожынскага раёнаў сталічнай вобласці, стала, як нейкі склеп.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, архівіст дзяржархіва ў Маладзечне.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# Апошняе ціхае лета Заходняй Беларусі

Чацвёра дзецюкоў з Крывічоў і яго ваколіцаў, вылучыўшы вольную часіну, на роварах выправіліся ў вандроўку. Невядомы фатограф зрабіў гэты кадр падчас шпацыру па брукаванай вуліцы Кабыльнікаў — мястэчка, што размясцілася на беразе Нарачы.

Гледзячы на прыгожых маладых беларусаў, што стаяць пад разгалістым каштанам, які ўзвышаецца над яўрэйскімі лаўкамі сялібы, міжволі ўзгадваеш радкі з "Народнага альбома": "Хлопцы трымаліся з годнасцю, стрыманай ды зухаватай...".

Касцюмы, трохі залішне штучная кампазіцыя і сур'ёзныя твары не псуюць фотакартку, а найлепш перадаюць дух таго часу, калі здымкі не былі паўсядзённасцю і калі ў іх адбівалася сапраўдная гісторыя...

Гэта было апошняе ціхае лета Заходняй Беларусі. Праз некалькі месяцаў выбухне другая сусветная вайна, якая знішчыць ідылічны спакой беларускіх вёсачак і раскідае людзей па свеце, закружыўшы іх у сваёй вогненнай віхуры.

**Мікола СЦЕБУРАКА, Вілейка.**



Фота з сямейнага архіва Міколы СЦЕБУРАКІ.

**Здымак зроблены 14 чэрвеня 1939 года. Першы злева – дзядзька аўтара Кастусь Сцебурака, мастак, удзельнік вайны ў складзе Войска Польскага. Зараз жыве ў Польшчы. Лёсам яму было наканавана так, што ён больш не наведаў гэтых мясцінаў. Засталіся толькі ўспаміны ды старыя фотакарткі.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## У Радашковічах цяжка без старасты

Г. Радашковічы, Віленск. губ. Пакуль што 2 годы цягнуцца выбары новага старасты, 12 упоўнамочных ужо зацьвярдзілі, а гарадзкога галаву не зацьвярдзілі, бо на такую вялікую гаспадарку гарадзкую трэба чэлавека больш вучонага, каб ён з ёй справіўся. Да гэтаго часу думы абкрадалі горад; за добраго хабара гарадзкую зямлю, млын, пляцы аддавалі у арэнду за бэзцэн, на самых некарысных гораду варунках. Цяпер, напрыклад, пазволілі Жукоўскаму засыпаць берэг азярышча пад мельніцу, яго зямлі прыбываець, а гарадзкой убываець, за тое ўсе упоўнамочэные так напіліся, што чуць дамоў запаўзлі, ды ешчэ кажуць пара соцен забразгала. Здалі каля маста цяпер пляцок пад крамы, ізноў забразгала. Больш сумленные мешчане пішуць жалабы на такіе штукі, але з жалаб карысьці німа. Усе гаворадь, што трэба выбраць гарадзкім старастам якога адукаванаго чэлавека, бо інакш гарадзкое дабро усё прападзе. Адным кандыдатам выстаўляюць доктара Ф. Залэнскага, чэлавек гаспадарскі, талковы, калі яго выберуць, то ужо аб хабарах ня будзе і гутаркі праз колькі гадоў Радашковічы ня можна будзе пазнаць.

**Радашкоўскі.**

## Бітва ў Вязыні

Вязынь, Віленск. губ. Вілейскаго пав. 29 ліпня у нас была праўдзівая бітва. Мястэчковые дзяцюкі ды завялі бітву з вясковымі. Ведама, былі ўсе напіўшыся. На гоман сабраліся бабы, дзеўчаты і дзеці, ды паднялі гвалт. Жутка было глядзець, як праз усю вуліцу ляцелі каменьня, збіваліся у адну кучу, ці даганялі адзін аднаго акрываўленые, з разбітымі галовамі людзі; парвалі у шчэнт сваю лепшую, сьвяточную адзежу. Разышліся, як саўсім сціямнела. Цяпер наступіла дажджлівая восенняя пагода, і гэткіе пабоішчы гатовы быць кожнае сьвята...

**Міколай Мокры. «Наша Ніва». №31 за 1912 год**

■ КОНКУРСЫ

## Падарунак да дня нараджэння

**ВІЛЕЙКА. "Міс Вілейка-2002" стала адзінаццацікласніца гімназіі Маргарыта Казлоўская.**

Конкурс прайшоў 17 жніўня ў Палацы культуры. На сцэне спаборнічалі 9 дзяўчат ад 16 да 28 гадоў. У журы была ўдзельніца рэспубліканскага конкурсу прыгажосці "Міс Беларусь-2002" віляйчанка Наталля Дзяруга. Дарэчы, яна дапамагала дзяўчатам рыхтавацца да конкурсу. А запаветную карону пераможцы ўручыла "Міс Вілейка-98" **Аксана Журыха**.

Маргарыта прыпамінае, як 4 гады таму прыйшла ў Палац культуры паглядзець конкурс прыгажосці. Марыла пабудзельнічаць. Гэтай думкай і жыла. Стрыечны брат **Дзіма Хмарэнка** настаяў, каб сястра прыняла ўдзел у конкурсе "Міс Вілейка-2002". Рыхтавалася Маргарыта да ўдзелу два тыдні. Бывала, рэпеціравала да чатырох гадзін у дзень. Нарэшце навучылася хадзіць на высокіх абцасах.

Русавалосая прыгажуня атрымала ў падарунак букет жоўтых руж і наручны гадзіннік.



Фота Яўгені ЛАГОДЫ.

**Рыта Казлоўская – «Міс Вілейка».**

Цяпер Маргарыта Казлоўская марыць "перамагчы" Беларускі дзяржаўны універсітэт – паступіць на аддзяленне, звязанае з гуманітарнымі навукамі. Дарэчы, Маргарыта – праўнучка **Міколы Валынца**, героя некалькі нашых публікацый. Ён у час другой сусветнай вайны быў салдатам Войска Польскага і пражыў большую частку жыцця ў Англіі. Мікола Валынец прысутнічаў на конкурсе і быў усцешаны перамогай праўнучкі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ СУВЯЗІ

## Міжнародны хрысціянскі летнік у Занарачы

**МЯДЗЕЛ. Амаль два тыдні праходзіў у Занарачы міжнародны хрысціянскі маладзёжны летнік.**

Гэты праект прыдумаў дванаццаць год таму каталіцкі біскуп доктар Хамаейр з Хіндэльсхайма ў Нямеччыне. Ідэя такая: збіраць на летнія сустрэчы моладзь з розных краін, каб спрыяць аб'яднанню калісьці падзеленага палітыкамі на дзве часткі кантынента. За дванаццаць год летнік праводзіўся ў Польшчы, Расіі, Чэхіі, Румыніі, Літве, Сербіі... А сёлета ўпершыню праходзіў у Беларусі. У вёсцы сабралася блізу двухсот чалавек з васьмі краін Еўропы – Беларусі і Германіі, Літвы і Украіны, Румыніі і балканскіх дзяржаў. Размясціліся ўсе ў палатках ля возера з магчымым у таких умовах камфортам: электрычнасць, вада, біятуалет.

Чаму менавіта Занарач стала месцам правядзення? Размешчана вёска ў прыгожым Нарачанскім краі, але галоўнае, што праводзілася работа духоўнага характару – на добраўпарадкаванні новай царквы. Валанцёры паставілі агароджу, добраўпарадкавалі тэрыторыю вакол храма, зрабілі лесвіцу да яго. На яе прыступках многія пакінулі свае аўтографы. Удзельнікі летніка ачысцілі некалькі ўчасткаў на возеры Нарач. Нароўні з усімі працаваў і біскуп Хамаейр, нягледзячы на свой тытул і ўзрост —73 гады. Нават крыўдаваў, калі яго, як кіраўніка, адрывалі ад работы па якіх пытаннях. Мауляў, на гэта ёсць іншы час, перапынак ці абед, а тут трэба працаваць.

Адметнасць летніка ў тым, што сабраліся тут і праваслаўныя, і каталікі, і уніяты. Дзень пачынаўся і завяршаўся малітвай у паходным храме – разам былі вернікі розных канфесій. Да абеду працавалі, пасля былі розныя мерапры емствы, экскурсіі, спартыўныя спаборніцтвы. Валанцёраў падзялілі на групы, у кожнай па аднаму-два чалавекі з розных краін.

Ва ўдзельнікаў ўражанні ад летніка засталіся прыемныя: цікавае месца, сяброўская атмасфера. Арганізатары таксама былі задаволеныя: шмат карыснага ўдалося зрабіць. Як добрую дапамогу ацаніў работу валанцёраў і настаяцель Занарацкай царквы айцец Анатоль.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ СУСТРЭЧЫ

## Жнівеньскі фэст у Будславе

**МЯДЗЕЛ. Другое лета ў Будслаўскім касцёле праходзіць не толькі знакаміты фэст 2 ліпеня, а ладзіцца яшчэ адзін –– на свята Унебаўзяцця Маці Божай, у гонар якой названы касцёл.**

Падзеі пачаліся ў ноч на мінулую суботу працэсіяй са свечкамі вакол парку, ноччу няспання ў касцёле. Раніцой наладзілі працэсію са станцыі Будслаў да касцёла, і ўсю дарогу спявалі песні, прысвечаныя Маці Божай Будслаўскай.

Найбольш вернікаў было са сваёй парафіі і суседніх, але ўжо пачынаюць прыязджаць і здалёку. На будучыню збіраюцца пашыраць вядомасць жнівеньскага фэсту, каб збіраліся людзі з розных куткоў Беларусі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

**Можа, і гэты юны пілігрым будзе прыходзіць у Будслаў двойчы за лета.**

■ МЕДЫЦЫНА

# «... Нас ніколі не вучылі берагчы мінулае»

**МАЛАДЗЕЧНА. Дванаццаць гадоў стваральнік музея службы крыві Мінскай вобласці і медыцыны Маладзечаншчыны Франц Світа не можа наладзіць экспазіцыю.**

Няма належнага памяшкання, асвятлення і стэндаў. Чарцяжы апошніх ён зрабіў з дакладнасцю да міліметра.

Ідэя стварэння музея адобрана на розных ступенях улады. Практычнай дапамогі ад яе няма.

Доўгія і вузкія калідорчыкі Мінскай абласной станцыі пералівання крыві (МАСПК) прывялі да звычайных бальнічных дзвярэй са сціплай шыльдачкай "МУЗЕЙ". За дзвярыма знаходзіўся маленькі пакой. З падлогі, паліц, шаф, скрынь Франц Світа пачаў паказваць "скарбы", расказваць пра мінулае.

Адпрацаваўшы 35 гадоў галоўным урачом МАСПК, Франц Іосіфавіч выйшоў на пенсію. Хаця медыцыну не кінуў. Дзесяць гадоў ён працуе ўрачом-гематолагам МАСПК.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Урач-гематолаг Франц Світа паказвае «медыцынскія скарбы».**

Урач з 45-гадовым стажам стварыў і стварае "медыцынскую" спадчыну роднага краю. Задумка пра музей з'явілася яшчэ 44 гады таму. У 1958 годзе трапіў у музей службы крыві пры Інстытуце пералівання крыві, што ў Маскве.

Франц Світа пачаў збіраць розныя рэчы, дакументы. Вельмі цікавыя матэрыялы пра ўрачоў, якія родам з Маладзечаншчыны. Сустракаўся з імі асабіста. Многія сталі прафесарамі. Напрыклад, Леанід Путырскі, Валерый Кіркоўскі, Пётр Кузюковіч, Пётр Гарэлік.

У музеі знаходзіцца звыш 300 асабістых спраў урачоў.

Захаваў Франц Світа і свае вынаходніцтвы. Выдзяляецца апарат для лячэння ацёку галаўнога мозга. Стварыў яго ў 1962 годзе. Тады падобныя былі толькі ў Амерыцы. Гэтым апаратам лячылі трыццаць гадоў ва ўсім былым Саюзе.

У 1963 годзе ўрач вынайшаў фільтр для ачышчэння лекавых раствораў.

Шукае экспанаты для музея Франц Іосіфавіч сам. Заўважыў, што ўрачы пенсіённага ўзросту адгукаюцца лягчэй. Аддаюць свае дыпломы, працоўныя кніжкі і іншыя рэчы. Маладзейшыя пытаюцца пра адно і тое ж: "Дзеля чаго гэта? Каму спадчыну перадасі?". Адказаць магу адзінае:

— На жаль, нас ніколі не вучылі берагчы мінулае.

**Ірына РАБУШКА.**

■ СУВЯЗЬ

# Аб чым звініць тэлефон

**МАЛАДЗЕЧНА. Тэлефон, як і аўтамабіль, даўно ўжо не раскоша, а інструмент зносін паміж людзьмі, атрыбут камунікацыйных функцый. Сёння і юная дзяўчына, і бязвусы юнак, не кажучы пра людзей салідных, пры пасадах, займелі "мабільнікі" і дзеляцца з сябрамі апошнімі навінамі. Меладычную трэль мабільнага тэлефона можна пачуць паўсюдна: у электрычцы і ў магазіне, на вуліцы і на пляжы. Нічога не скажаш – цывілізацыя!**

Праўда, яна з большай ахвотай "прапісваецца" ў гарадах. А ў вёсках, асабліва аддаленых, шмат хто чакае не дачакаецца звычайнага тэлефона. Патрэбны ён для мэт празаічных – "хуткую" выклікаць, аб пенсіі справіцца, дзецям патэлефанаваць, каб за свежынай ехалі альбо радоўку адбыць дапамаглі.

Што ўяўляе сабой тэлефонная сетка на Маладзечаншчыне, наколькі густа пакрыла яна тэрыторыю раёна, што, можа быць, стрымлівае тэлефанізацыю? За адказамі на гэтыя ды іншыя пытанні звярнуўся да начальніка раённага вузла электрычнай сувязі **Леаніда Валатовіча**.

— Калі гаварыць наогул пра тэлефанізацыю горада і раёна, то з 37500 тэлефонаў, якія ўстаноўлены на сетцы, сельскія складаюць 7700 абанентаў, а гарадскія – 25500. Я маю на ўвазе насельніцтва.

**— Тлумачэнне гэтаму, думаю, наступнае: устаноўка тэлефонаў у горадзе абыходзіцца таннней, чым у сельскай мясцовасці. Так?**

— Спачатку, напэўна, варта гаварыць пра тое, што тэхнічны прагрэс найперш закранае горад. Попыт сярод гарадскога насельніцтва на паслугі сувязі вышэй, чым сярод вяскоўцаў. Да таго ж будаўніцтва абаненцкіх ліній з-за іх працягласці ў вёсцы даражэй.


ФотаREX/ProMedia.

Нехта чакае гэтых званкоў.

**— Калі ўявіць карту раёна, то дзе гусцейшая сетка тэлефонных ліній, а дзе найбольш "белых плямаў"?**

— Быў час, калі ў гарадскім пасёлку Радашкавічы мы бачыцам вырашылі праблему ўстаноўкі кватэрных тэлефонаў. Але на працягу апошніх пяцішасці гадоў попыт на іх зноў узрос. У пасёлку цяпер налічваецца каля 1500 тэлефонаў, а чарга наблізілася да паўтысячы.

У Чысці, якая з'яўляецца ўзорам развіцця сельскіх населеных пунктаў, мы ўстанавілі АТС і яшчэ два гады таму ў прынцыпе задаволілі попыт на паслугу. Але сёння пытанне мае месца і тут.

Практычна адсутнічае чарга на тэлефоны ў пасёлку Беразінскае.

Аднак у вёсках Гарадзілаўскага, Гарадоцкага, Хажоўскага, Выверскага сельскага Савету асабліва востра адчуваецца патрэба ў развіцці тэлефоннай сеткі. Прычым у чарзе нямала інвалідаў вайны і працы, састарэлых людзей.

**— Леанід Мікалаевіч, сёння прамысловыя прадпрыемствы раёна, калгасы, арганізацыі, думаю, не памочнікі вам у тэлефанізацыі населеных пунктаў, як гэта было раней, — не стае сродкаў на свае патрэбы...**

— Цяпер мы перайшлі на іншую форму работы: працуем не з прадпрыемствамі, а з насельніцтвам. І ў гарадскім, і ў раённым выканаўчых камітэтах маем разліковыя рахункі, на якіх акумулюем сродкі грамадзян на развіццё мясцовай тэлефоннай сеткі. Менавіта за гэтыя грошы вядзём тэлефанізацыю. Да прыкладу, будуем АТС на семсот нумароў у Аляхновічах. Сума для асобных грамадзян, магчыма, і адчувальная – у межах 300-350 тысяч рублёў (у горадзе, для параўнання, – да 250 тыс. руб.). Па ўзгадненню з райвыканкомам для розных катэгорый прадугледжаны льготы. Наогул жа ўстаноўка тэлефона ў сельскай мясцовасці, калі прытрымлівацца сучасных патрабаванняў, абыходзіцца РВЭС прыкладна ў 500 тысяч рублёў.

**— Ніяк нельга абмінуць і такі аспект, як мабільная сувязь. Ці прыжываецца яна на тэрыторыі раёна?**

— Безумоўна, мы развіваем новыя віды паслуг. І няхай галоўныя аператары мабільнай сувязі – Velkom і МТС – не ўваходзяць у структуру Міністэрства, тым не менш ніхто з іх без "Белтэлекома", без нашых сетак свае паслугі прапанаваць не змог бы. У сваю чаргу мы амаль поўнасцю пакрылі раён радыётэлефоннай сувяззю з выкарыстаннем базавай станцыі "Вілія" вытворчасці маладзечанскага завода "Спадарожнік" і можам прапанаваць гэты від паслуг кожнаму.

**— Хто хоча працаваць – працуе, хто не хоча – шукае розныя прычыны для гэтага. Якія ў вас ўзаемаадносіны з кліентамі?**

— Калі маеш 37 тысяч абанентаў, то ўсялякае здараецца. Можа быць, і не па нашай віне. Але мы стараемся максімальна задаволіць попыт на ўстаноўку тэлефона. У населеных пунктах раёна чарга складае крыху больш за 3000 чалавек – гэта патэнцыяльныя нашы кліенты. І адразу задаволіць іх запыты мы не можам толькі па прычыне адсутнасці сродкаў. А жадання, павагі і ўвагі да чалавека нам не пазычаць.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 15 жніўня | 22 жніўня |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1838,00 руб. | **1842,00** руб. |
| Еўра | 1815,85 руб. | **1806,82** руб. |
| Злоты | 441,67 руб. | **445,52** руб. |
| Літ | 525,88 руб. | **523,33** руб. |
| Расійскі рубель | 58,27 руб. | **58,34** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1850-1865 руб. | **1860-1875** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.08 | 21.08 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 11900 | **10990** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 4900 | **4900** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2500 | **2500** |
| **Рыс**, 1 кг | 680 | **700** |
| **Грэчка**, 1 кг | 580 | **530** |
| **Цукар**, 1 кг | 820 | **820** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 880 | **900** |
| **Алей**, 1 л | 1950 | **2000** |
| **Маянэз**, 200 г | 400 | **400** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **2000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 700 | **700** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 500 | **550** |
| **Капуста**, 1 кг | 450 | **450** |
| **Лімоны**, 1 кг | 1680 | **1600** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1480 | **1450** |
| **Агуркі**, 1 кг | 500 | **650** |
| **Памідоры**, 1 кг | 600 | **700** |
| **Кавуны**, 1 кг | 430 | **400** |
| **Морква**, 1 кг | 550 | **450** |
| **Дыня**, 1 кг | 1100 | **1100** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Малако**, 1 л | 600 | **500** |
| **Смятана**, 1 л | 2000 | **1500** |
| **Масла**, 1 кг | 4000 | **3800** |
| **Тварог**, 1 кг | 1800 | **1500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1400 | **1200** |
| **Бульба**, 1 вядро | 2400 | **2400** |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4000 | **5000** |
| **Алыча**, 5-л. вядро | 1500 | **1000** |
| **Брусніцы**, 5-л. вядро | 8000 | **7000** |
| **Слівы**, 5-л. вядро | 2500 | **3000** |

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Рэкордная колькасць загінуўшых

МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку жніўня на тэрыторыі раёна ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў загінула 6 чалавек.

Гэта анамалія. З пачатку года загінула 16 чалавек. А за два тыдні жніўня колькасць загінуўшых складае 37,5% ад гэтай лічбы.

## Пацярпелі пешаходы...

Раніцай 9 жніўня ў Маладзечне па вуліцы Крынічнай смаргонец, які сядзеў за рулём "МАЗа", не справіўся з кіраваннем і наехаў на маладзечанку, якая памерла на месцы.

11 жніўня ў Вязынцы каля 6 гадзін раніцы машына "ВАЗ-2101" наехала на мясцовую жыхарку. Вадзіцель не аказаў медыцынскай дапамогі пацярпеўшай і з'ехаў з месца здарэння. А жанчына памерла праз некалькі гадзін ў маладзечанскай бальніцы.

## ... І не толькі

5 жніўня ў Аляхновічах вадзіцель "Форда-Сіеры", якога ў красавіку пазбавілі правоў за ваджэнне ў нецвярозым стане, не справіўся з кіраваннем, і машыну выкінула ў кювет. Вадзіцель і пасажыр загінулі.

7 жніўня жыхар Радашкавіч, які не меў правоў, на незарэгістраваным матацыкле вёз пасажыра. Пры выездзе на галоўную дарогу ў вёсцы Сычавічы матацыкл сутыкнуўся з трактарам МТЗ. Пасажыр атрымаў траўму галавы і памёр ў машыне "хуткай дапамогі".

**Уладзімір ЛУКАШЫК.**

■ НАШЫ ГРОШЫ

# Падзенне рубля непазбежнае

Нягледзячы на актыўны ўдзел у "бітве за ўраджай", прэзідэнт краіны засяроджвае сваю ўвагу на аналізе галоўнай праблемы, якая стаіць перад эканомікай краіны, – росце інфляцыі. Па ёй Беларусь трэці год запар займае першае месца сярод краін СНД. Нястрыманы рост цэн працягваецца. Выдзяленне летам вялікіх грошай аграрнаму сектару абернецца восенню чарговым скачком цэн, што толькі паскорыць інфляцыю: гадавы індэкс яе набліжаецца да мінулагодняга ўзроўню – амаль 60%. Рост цэн аўтаматычна адбіваецца і на курсе нацыянальнай валюты. Пакуль Нацыянальны банк спраўляўся са сваёй галоўнай задачай – курс рубля падаў плаўна ў рамках запланаванага калідора. За студзень-ліпень гэтага года тэмпы дэвальвацыі беларускага рубля ў адносінах да долара склалі 16% – як і прагназіравалася. А да 1 жніўня курс долара склаў 1829 рублёў. Суадносіны тэмпаў дэвальвацыі рубля з ростам інфляцыі ў краіне таксама знаходзіліся ў запланаваным інтэрвале – 73-75%. Нацыянальным банкам былі прыкладзены вялікія намаганні па ўтрыманню тэмпаў дэвальвацыі нацыянальнай валюты ў запланаваных межах – з валютных рэзерваў прыйшлося прадаць грамадзянам на 270 мільёнаў долараў больш, чым у іх куплена. Але праводзіць такую палітыку і далей становіцца ўсё цяжэй – пры пастаянным сезонным росце попыту на валюту восенню паступленняў долараў для правядзення валютных інтэрвенцый можа ўжо не хапіць.

Тады выйсце будзе адно – прыйдзецца дэвальвіраваць рубель. Прапановы хутчэй гэта правесці гучаць ад розных эканамістаў і фінансістаў даўно. Пытанне ўжо ўяўляецца вырашаным – дэвальвацыя будзе. Толькі калі, у якія тэрміны і на колькі ўпадзе рубель пакуль невядома. Мяккі сцэнарый дэвальвацыі рубля за некалькі месяцаў на 5-10% да ўзроўню 1900-1950 рублёў за долар адпавядае прагнозу і наўрад ці дапаможа ўраду. Хутчэй за ўсё меры будуць прыняты рашучыя – давесці курс долара да 2000 рублёў за месяц да 1 кастрычніка, потым прааналізаваць вынікі гэтых мер і пры неабходнасці дэвальвіраваць рубель яшчэ раз да зімы 2003 года. Аднак тады нявыкананым будзе мінулагодні наказ прэзідэнта аб забеспячэнні 100-доларавага эквівалента сярэднемесячнага заробку і праблематычнымі будуць перспектывы атрымання расійскага крэдыту, бо яго выдзяленне абумоўлена абавязковым выкананнем некаторых нарматываў.

Дэвальвацыя рубля адразу прывядзе да абясцэньвання ўкладаў грамадзян у банках, якія даўно сталі даволі значнай крыніцай інвестыцый у эканоміку краіны. За першую палову года ўклады павялічыліся на 232 мільярды рублёў і 25 мільёнаў долараў і склалі каля 640 мільёнаў долараў у валютным эквіваленце. Ужо сёння вядома, што стаўкі прыцягнення банкамі грошай насельніцтва на ўмовах 40-45% гадавых уступаюць тэмпам інфляцыі ў 50-55% гадавых. Гэта значыць, тое, што вы маглі раней купіць за вызначаную суму, але не купілі, бо захоўвалі грошы ў банку, цяпер ужо не купіце за суму укладу і працэнтаў, бо цэны на тавары і паслугі растуць хутчэй, чым банкі прапануюць даход ў выглядзе працэнтаў. Выгадна ўкласці толькі ў параўнанні з курсам дэвальвацыі, бо працэнты банкаў пакуль яшчэ вышэй, чым рост курсу долара. Але застаецца рызыка паспець своечасова зняць грошы і зноў канверсаваць іх у валюту. Калі ж урад вырашыць курс рубля адпусціць, то сэнс захоўвання грошай у банках увогуле знікне з-за рэальных страт, бо рост курсу долара абгоніць стаўку працэнтнага даходу.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

# Як захаваць ураджай вінаграду?

“Хацелася б атрымаць на старонках вашай газеты падрабязны і кваліфікаваны адказ, што ўяўляе сабой мілдзью – хвароба вінаграду, – піша нам жыхар Маладзечна Аляксандр Салагуб. – Якія найбольш прыкметныя сімптомы праяўлення гэтай хваробы на раслінах? Чым мэтазгодна апрацоўваць вінаградную лазу, каб пазбавіцца ад напасці? Якія прафілактычныя меры прымяняць?”.

Адказаць на пастаўленыя чытачом пытанні мы папрасілі нашага даўняга аўтара агранома **Альбіна Макарэвіча**.



Фота Ірыны РАБУШКІ.

Вінаград без мілдзью разыходзіцца на калгасным рынку добра.

### Што трэба ведаць пра мілдзью?

Вінаградная лаза, як і іншыя пладовыя расліны, пашкоджваецца многімі хваробамі. І калі іх добра ведаць, то лягчэй знайсці шляхі і сродкі для лячэння ці прафілактыкі.

Узбуджальнікам мілдзью з'яўляецца грыб. Развіваецца ён бясполым спосабам. Зімуе на апаўшых лісцях. Ад моманту пранікнення ўзбуджальніка мілдзью да з'яўлення светла-жоўтых ці светла-зялёных масляністых плям праходзіць некаторы перыяд. Ён бессімптомны і называецца інкубацыйным. У залежнасці ад тэмпературы паветра ён мяняецца. Пры сярэднясутачнай тэмпературы 17 градусаў ён складае 6-7 дзён, а пры 13 градусах – каля 12. Пасля заканчэння інкубацыйнага перыяду на верхнім баку ліста з'яўляюцца светла-жоўтыя (светла-зялёныя) масляністыя плямы, а на ніжнім баку – белы пушысты налёт (пры сухім надвор'і яго можа і не быць). Плямы ў дыяметры дасягаюць 2-3 см. Пазней яны становяцца чырвона-бурымі, потым лісты засыхаюць і ападаюць. Тое ж самае адбываецца з бутонамі, кветкамі, завяззю. Ягады пакрываюцца шэра-сіняватымі ўціснутымі плямамі. Хворыя ягады набываюць цёмна-шакаладны колер, зморшчваюцца і потым ападаюць. Спелыя ягады не пашкоджваюцца мілдзью, бо пры дыяметры больш 3 мм споры грыба не могуць пранікнуць унутр. Пры спрыяльных умовах грыб можа развіць за лета да 15 генерацый і знізшыць ураджай вінаграду на 25-30 працэнтаў. А калі не прымяняць ахоўныя меры, то можна застацца не толькі без ураджаю, але і без раслін наогул.

### Ці можна абысціся без ядахімікатаў?

Калі захоўваць усе правілы агратэхнікі пры пасадцы і доглядзе раслін, то, несумненна, можна закрыць усе дарогі ўзбуджальніку хваробы ў вінаградны сад.

Дапаможа ў гэтым і новы біяпрэпарат імунацытафіт (імунны – неўспрымальны да хвароб, цыта – клетка, фіта – расліна). У яго састаў уваходзяць злучэнні, якія стымулююць узнікненне ахоўных рэчываў. І мікраарганізмы – узбуджальнікі многіх хвароб, у тым ліку і мілдзью – не могуць пранікнуць у клеткі раслін. Прымяняць гэты прэпарат трэба строга ў адпаведнасці з інструкцыяй. Добры вынік дае апрысківанне раслін у сярэдзіне лета, калі фарміруюцца і спеюць плады.

На вельмі паражоных кустах без ядахімікатаў не абысціся.

### Якія ядахімікаты лепш прымяняць?

Самымі экалагічна бяспечнымі для дачных і прысядзібных участкаў з вінаграднікамі з'яўляюцца медны і жалезны купарвасы, бардоская сумесь і хлорвокіс медзі.

Доктар сельскагаспадарчых навук Рамуальд Лойка, які большую частку свайго жыцця прысвяціў вывучэнню спосабаў вырошчвання і селекцыі вінаграду, раіць:

Саджанцы ў пітомніку і маладыя пасадкі трэба апрацоўваць 3-4 разы 0,5-працэнтнай бардоскай сумессю. Першы раз у другой палове чэрвеня (да цвіцення), а наступныя апрацоўкі праводзіць па меры з'яўлення новых лісцяў. Асобую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб раствор прэпарата добра пакрываў ніжні бок ліста.

Расліны, якія пладаносяць, за перыяд вегетацыі ён раіць апрыскваць бардоскай сумессю чатыры разы. Першы раз – 1,5-2% растворам (150-200 г меднага купарвасу + 150-200 г вапны на 10 л вады) у фазе разрыхлення суквеццяў і фарміравання бутонаў. Другі раз – 1-% растворам пасля цвіцення. Трэці раз – 1-% растворам, калі ягады дасягнуць гарошыны. Чацвертае апрыскванне праводзіць 1-% растворам праз 10-12 дзён пасля трэцяга.

Замест бардоскай сумесі можна прымяняць 0,4-% раствор хлорвокісу медзі. Апрыскванне праводзіць у тыя ж тэрміны.

Восенню трэба збіраць і спальваць лісце і абрэзкі лазы. Падрыхтаваныя чаранкі апрацоўваць 2-3-% растворам меднага ці жалезнага купарвасу.

**Альбін МАКАРЭВІЧ.**

### Што такое мілдзью?

**Мілдзью з'яўляецца каварнай і небяспечнай хваробай вінаграду. Завезеная яна ў краіны Еўропы з Амерыкі, і назва гэтая запазычана з англійскай мовы. Пры паражэнні мілдзью маладых лістоў вінаграду на верхнім баку з'яўляюцца светла-жоўтыя акруглыя плямы, а на ніжнім (у вільготнае надвор'е) – белы пушысты налёт, які падобны на мучністую расу.**

### Прафілактыка

**Самая надзейная мера прафілактыкі – гэта вырошчванне ўстойлівых да гэтай хваробы сартоў. Выведзены новыя варыянты сартоў Касманаўт і Прыгажуня поўначы, якія добра растуць і пладаносяць нават у самых паўночных раёнах Беларусі. Дапамагае зберагчы вінаград і захаванне правіл агратэхнікі – пасадка вінаградніка на добра праветрываемым участку, размяшчэнне радоў у напрамку пануючых вятроў, своечасовая падвязка і абрэзка лазы, знішчэнне апалых паражоных лісцяў і ягад шляхам перакопвання глебы, закладка плантацыі толькі якаснымі і здаровымі саджанцамі.**

■ СТЫХІЯ

# Віляйчане могуць спаць спакойна

**На мінулым тыдні палову Еўропы размыла шалёная паводка, якая забірала чалавечыя жыцці, зносіла дамбы і падмывала дамы. Германія параўноўвае наступствы стыхіі з сумнымі вынікамі другой сусветнай вайны. Ці можа падобнае адбыцца на Беларусі, дзе працякае каля трох тысяч рэк і васемнаццаць тысяч ручаёў?**



Фота AP , Yves Logghe.

**У гэтыя дні ў Германіі разыгрываюцца тысячы і тысячы асабістых трагедый. У імгненне людзі губляюць нажытае гадамі, не ведаючы, што будзе заўтра. Тысячы добраахвотнікаў круглыя суткі працуюць разам з прафесіянальнымі выратавальнікамі, на ўласных машынах падвозяць рачны пясок, яду і піццё. Салдаты Бундэсвера стаяць на лініі, каб умацаваць мяшкамі з пяском плаціну ракі Эльбы. Усяго ў гэтай аперацыі задзейнічана каля 20 тысяч салдат.**

У жыхароў Вілейкі, да таго ж, выклікае занепакоенасць суседства з самым вялікім вадасховішчам ў рэспубліцы. Мы папрасілі спецыялістаў, якія непасрэдна звязаныя з гідрасістэмай Вілейкі, развеяць апасенні віляйчан. Першым суразмоўцам стаў галоўны інжынер Вілейскага цэха гідразбудаванняў **Леанід Целеш**:

– Ніякіх падстаў для хвалявання няма. Лета гарачае, змяненняў у бліжэйшы час не прадбачыцца. Да таго ж, над краінай пануе антыцыклон, і прагнозаў на ліўні няма.

**– А як пачуваюць сябе вёскі, што знаходзяцца паблізу вадасховішча, напрыклад, Чыжэвічы?**

– Усе вёскі, для якіх вадасховішча магло ўяўляць небяспеку, былі перанесены і перасялены яшчэ падчас яго будаўніцтва. Таму, калі нават на першы погляд здаецца, што вёска можа пацярпець ад вадасховішча, не трэба хвалявацца. Усе яны знаходзяцца вышэй фарсіраванага ўзроўню, і вада да іх не падымецца.

**– З часу будаўніцтва Вілейскага вадасховішча прайшло амаль трыццаць гадоў. Можа, дамбу дзе-нідзе трэба аднавіць, адрамантаваць?**

– На шчасце, вадасховішча пабудавана як трэба, ніякіх падобных праблем пакуль няма.

Гідраметэаралагічная станцыя Вілейкі таксама адсочвае сітуацыю вакол вадасховішча, кантралюе ўплыў ападкаў на ўзровень вады ў вадаёмах і рэках.

Інжынер-гідролаг **Таццяна Француз** расказала наступнае:

– Канешне, ніякай паводкі ў нас не прагназіруецца. Цыклон, што захапіў Еўропу, рушыў на Украіну, а ўзровень вады ў вадасховішчы, вымярэнне якога мы праводзім кожны дзень, цяпер незвычайна нізкі. Тут адбіваецца спякота.

**– А што, на вашу думку, акрамя цыклона, паўплывала на сітуацыю ў Еўропе?**

– Розныя фактары: падземныя сцёкі, ліўні і іншае. Справа яшчэ ў тым, што Заходняя Еўропа адрозніваецца ад Усходняй разнастайнасцю рэльефу: там больш гор, узгоркаў, і, як вынік, рэкі цякуць пад розным ухілам. Наша мясцовасць больш раўнінная, адсюль і спакойныя рэкі. Звычайна ўзровень вады падымаецца адразу пасля зімы. Але такіх бурлівых рэк, якія былі ў саракавыя-пяцідзесятыя гады, у нас ужо не будзе. З кожным годам паслязімовы ўзровень вады зніжаецца.

Немагчыма прадугледзець і прадухіліць усе катастрафічныя сітуацыі – на гэты выпадак існуе выратавальная служба – Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Часцей мы бачым хлопцаў з МНС у барацьбе з агнём, але на самой справе яны рыхтуюць сябе да процістаяння любой крытычнай сітуацыі прыроднага і тэхнагеннага характару, у тым ліку да барацьбы з паводкамі. Намеснік начальніка аддзела па ліквідацыі надзвычайных сітуацый Вілейскага аддзялення МНС маёр **Алег Бічун** расказвае пра асаблівасці свайго дзейнасці:

– Мы пастаянна кантралюем узровень вады ў чатырох пунктах Вілейскага раёна: там, дзе зліваюць ваду з вадасховішча, у Віліі ў Ніжнім парку, у рэчцы Нарачанка і ў раёне Даўгінава. Таксама праводзім дадатковыя мерапрыемствы вясной, калі растае снег.

**– Ці распрацаваны план дзеянняў на выпадак прарыву дамбы вадасховішча?**

– Так, існуе комплекс мер, зацверджаных райвыканкомам і Вілейскім цэхам гідразбудаванняў. Захоўваюцца запасы пяску, гравію, друзу, якія могуць быць выкарыстаны ў надзвычайнай сітуацыі. З ПМК-88 заключаны дагавор аб дапамозе транспартам і іншымі рэсурсамі. У раёне ўвесь водны транспарт узяты на ўлік: і той, што належыць прадпрыемствам, і прыватнікам.

**– Што чакае насельніцтва пры прарыве дамбы?**

– Вялікай шкоды не будзе: вада пойдзе па рэчышчы Віліі, цэнтр горада не закране. У падобнай сітуацыі насельніцтва адразу будзе апавешчана па праваднай сетцы, людзі даведаюцца, што здарылася, як дзейнічаць.

**– Ці здараюцца затапленні ў час тання снегу ў раёнах, якія знаходзяцца паблізу вадасховішча, у нізіне.**

Бывае, але часцей вада збіраецца ў падвальных памяшканнях. Напрыклад, у раёне вуліцы Каралёва затапіла некалькі падвалаў, мы выпампоўвалі ваду. Калі непаладкі з каналізацыяй, таксама можам выехаць.

**Аляксей ЧУБАТ.**

■ ФУТБОЛ, ЛЕГІЯНЕРЫ

## Карыцька перайшоў у "Сатурн"

**Прапануем падборку апошніх навін аб працаўладкаванні маладзечанскіх футбалістаў.**

**Уладзімір Карыцька** працягвае кар'еру ў расійскай прэм'ер-лізе. Але ўжо не ў складзе растоўскага "Растсельмаша", а ў больш моцным клубе "Сатурн-REN-TV" з падмаскоўнага Раменскага. Хаця на поле ў афіцыйных матчах за свой новы клуб Уладзімір яшчэ не выходзіў.

**Андрэй Мілеўскі** ў міжкругавой паўзе перайшоў з салігорскага "Шахцёра" у мінскае "Дынама". Абодва яны выкліканы на жнівеньскі збор нацыяльнай каманды.

**Уладзімір і Міхаіл Макоўскія** засталіся ў складзе "Закарпацця" з Ужгарада, якое пакінула вышэйшую ўкраінскую лігу і зноў (чарговы чэмпіянат распачаўся месяц таму) выступае ў першай. **Аляксандр Вяжэвіч** па-ранейшаму выступае за "Тарпеда-МАЗ".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ

**17 жніўня, таварыская сустрэча.**

"Забудова" – "Маладзечна-2000" 0:6.

Галы: Макрыцкі – 3, Дараховіч, Азаронак, Антановіч.

■ ФУТБОЛ, ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

## Гульня за шэсць ачкоў

**Заўтра футбольны клуб "Маладзечна-2000" сустракаецца з мазырскай "Славіяй".**

Адбудзецца гульня за 6 ачкоў. Чатыры клубы – "Лакаматыў-96", "Маладзечна-2000", "Славія", "Зорка-ВА-БДУ" – засталіся на дне турнірнай табліцы і значна адсталі ад іншых каманд. Менавіта ў сустрэчах паміж сабою хутчэй за ўсё аўтсайдэры вызначаць каманду, якая пакіне вышэйшую лігу.

Маладзечанцы правялі тры матчы ў другім крузе і сваёй гульнёй недзе нават здзівілі. Чакалася, што моладзь не здолее адразу паўнацэнна замяніць сем гульцоў асноўнага складу. Адбылося зваротнае. Каманда стала выкладвацца да апошняга. Тыя, хто ўчора быў за спіной **Міхалёва, Мігаса, Бычкоўскага**, сёння разумеюць, што адказваць за гонар горада прыйдзецца самім.

Капітанам і адначасова лідэрам каманды стаў **Віталь Сцепановіч**. Галоўнаму трэнеру **Аляксандру Кісценю** ёсць над чым падумаць. Кім запоўніць вакансіі, звязаныя з адсутнасцю **Сяргея Тартоўскага** з-за траўмы і лепшага бамбардзіра **Сяргея Сідарэнкі** з-за дыскваліфікацыі? Хутчэй за ўсё правы фланг "закрые" **Андрэй Лявончык**. У атацы згуляе **Макрыцкі**, а **Дараховіч, Смірноў** і **Карпіленка** выйдуць на пазіцыі цэнтральных паўабаронцаў.

Апошнія гульні чэмпіянату паказалі, што маладзечанцам не хапае вопыту. Двойчы яны выходзілі наперад, але ў канцы матчаў здавалі і прапускалі неабавязковыя мячы. "Славія" апошнім часам таксама прайграе. І там у асноўным гуляюць маладыя футбалісты. У заўтрашняй гульні ўсё вырашаць маральна-валявыя якасці гульцоў абедзвюх каманд.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ПАРТРЭТ

# Галіна Кавалёва: з бегам па жыцці

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў нас у гасцях самая тытулаваная бягуння рэгіёна Галіна Кавалёва.**

**– Лёгкая атлетыка, а асабліва марафонскі бег, цяжкі і невідовішчны від спорту. Чаму Вы зрабілі такі выбар?**

– Хацелася добра выглядаць, чуць кампліменты. Спачатку выступала на 5-10-кіламетровых прабегах і ніколі не думала, што калі-небудзь пабягу марафон. А пасля наступіў такі момант, калі захацелася самой сабе даказаць: усе бегаюць, няўжо я не магу?

**– Для звычайных людзей і 10 кіламетраў здаецца надзвычай доўгай дыстанцыяй, не кажучы ўжо пра 42. Пра што Вы думаеце падчас бегу?**

– Звычайна ні пра што не мару, а ў думках "будую" дыстанцыю: ці не вельмі хутка я бягу, можа, трэба павольней. Думаць пра штосьці іншае цяжка, асабліва калі хто-небудзь даганяе.

**– Як ставяцца да Вашага захаплення сябры і сваякі?**

– Муж падтрымлівае мяне і кантралюе трэніровачны працэс, бо ў мяне няма трэнера. Сваякі спачатку не разумелі, маўляў, навошта гэта табе трэба, а пасля прывыклі. Большасць жа сяброў таксама займаюцца бегам.

**– Якімі якасцямі, на Ваш погляд, павінен валодаць марафонец?**

– Сілай волі, цярпеннем, настойлівасцю. Яшчэ павінна быць мэта, да якой трэба імкнуцца. У мяне, напрыклад, мэта ўжо не марафон, а 100 кіламетраў, бо нельга "таптаць" на месцы, трэба ісці ўперад.

**– Вы выступалі на спаборніцтвах за мяжой?**

– Часам выязджаю. Сёлета ў Германіі прабегла трэцяй у сваёй узроставай групе на дыстанцыі 60 кіламетраў. А ў Бельгіі на чэмпіянаце свету па бегу на 100 кіламетраў мне фінішаваць не ўдалося. За мяжой спаборніцтвы праходзяць на больш высокім узроўні. Гэта тычыцца і разметкі трасы, і арганізацыі харчавання на дыстанцыі. Каб бегчы марафон ці звышмарафон, трэба энергія. Калі ў нас на пунктах харчавання прапануюць ваду, чай, у лепшым выпадку бананы, то за мяжой – шакалад, разынкі, вітаміны. Пра напоі і гаварыць няма чаго, іх 10 відаў: кока-кола, чай, вітамінны напой, пажыўны кактэйль. Чалавек сапраўды можа выбіраць, што яму лепш падыходзіць, што лепш засвоіцца.

Увогуле за мяжой бег больш папулярны, чым у нас. Там людзі больш клапоцяцца пра сваё здароўе. Мы былі на спаборніцтвах у маленькім гарадку ў Германіі. Насельніцтва 1200 чалавек, і кожны другі займаецца спортам. Спортзал зачыняецца літаральна толькі ноччу. Ну і ўмовы для заняткаў спортам у іх безумоўна лепшыя. У нас у магазінах няма патрэбнага асартыменту спартыўнага абутку. Тыя ж бегавыя красоўкі немагчыма купіць. Здаецца, стаяць добрыя красоўкі, вар'яцкіх грошай каштуюць – 180 еўра, але ж яны цяжкія, у іх немагчыма бегчы. Добрыя можна купіць толькі за мяжой. У той жа Польшчы выпрацоўваюць танныя і прыдатныя менавіта для трэніровак. А ў Беларусі – толькі лідскія. Мне пашчасціла купіць добрую мадэль Adidas.

**Святлана ЦІШКО.**




Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

**Кандыдат у майстры спорту па лёгкай атлетыцы Галіна Кавалёва. Нарадзілася 1 студзеня 1966 года ў вёсцы Рабінавая Маладзечанскага раёна. Бегам займаецца з 1988 года. З 1995 года выступае на марафонскай дыстанцыі, лепшы вынік – 2.56. Сёлета на Міжнародным мінскім марафоне заняла першае месца сярод жанчын усіх узроставых груп.**

**Табло**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

**МАЛАДЗЕЧНА. 20 жніўня ў зале ЗМК прайшоў занальны турнір сярод калектываў Упраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкома.**

Восем калектываў з Маладзечна, Вілейкі, Заслаўя, Лагойска, Мядзела, Валожына, Дзяржынска і Узды размеркаваліся на дзве групы. Пераможцы груп разыгрывалі адзіную пуцёўку на фінальны турнір, які пройдзе на наступным тыдні ў Мінску. У рашаючай гульні гаспадары выйгралі ў каманды Узды 5:1.

У фінале маладзечанцы далучацца да яшчэ трох пераможцаў аналагічных занальных турніраў.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

Вынікі 17 тура. Гомель-2 – Спартак-ВАР-Днепр 0:0, Дынама-БНТУ – Палессе 1:1, Пінск-900 – СКВІЧ 2:0, Вертыкаль – Старыя Дарогі 1:0, Баранавічы – РВАР 2:2.

Турнірная табліца

1.МТЗ-РІПА (Мінск) (-1) 43
2.Вертыкаль (Калінкавічы) 38
3.ФК "Пінск-900" ........ 32
4. ФК "Баранавічы" ........ 30
5.Спартак-ВАР-Днепр (Шклоў) ........................ 25
6.Верас (Нясвіж) (-2) ...... 22
7.Дынама-БНТУ (Мінск) 20
8.Забудова (Чысць) (-1) .. 20
9.СКВІЧ (Мінск) ........... 18
10.РВАР (Мінск) (-1) ...... 16
11.Гомель-2 ...................... 9
12.Палессе (Мазырскі раён) 7
13.Старыя Дарогі (-1) ....... 2

**На гэтым тыдні гуляюць**

24.08 Славія (Мазыр) – Маладзечна-2000
+2=2-8 11-26. У першым крузе 2:2 (Сідарэнка, аўтагол) дома

25.08 Смаргонь – Тарпеда-Кадзіна (Магілёў)
У першым крузе 0:0 на выездзе

25.08 МТЗ-РІПА (Мінск) – Забудова
+2=1-6 6-14. У першым крузе 1:6 (Мартынаў) дома

■ ТУРЫЗМ

# Лічба трынаццаць – таксама шчаслівая

**У турклубе "Пілігрым" ужо стала традыцыяй у час летніх школьных канікулаў праводзіць сямейныя турысцкія паходы. І гэта лета не стала выключэннем.**

У першай палове жніўня сямейная група зрабіла веласіпеднае падарожжа першай катэгорыі складанасці па Мінскай і Віцебскай абласцях. Маршрут пачынаўся з Маладзечна. Сем'і Бялковых, Сідаровічаў, школьнік гімназіі Максім Булава выехалі з горада праз Вілейку ў Куранец. Тут да іх далучыліся сем'і Шынкевічаў, Шаблыкаў і Чыкавых. Вось і стала нас усяго трынаццаць. А далей маршрут праходзіў праз азёры Запортава – Мядзел – Лучайскае – Стадраворскае – вёску Мосар – Глыбокае – воз.Белае – ст.Крулеўшчына. Дзесяцігадовы метэаролаг групы Надзея Шаблыка замярала тэмпературу вады ў вадаёмах. Яна была 23-24 градусы. Дзяцей цяжка было выцягнуць з вады. Каля Мядзела купілі вэнджанага вугра. Смачна, шкада, што кавалачак быў невялікі. Вельмі ўразіў усіх удзельнікаў паходу касцёл Ганны ў вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна, які пабудаваны ў 1792 годзе. А больш не касцёл, а тэрыторыя вакол яго, на могілках, у самой вёсцы. Намаганнямі мясцовага ксяндза тут зроблены маленькі цуд. Мосцікі над сажалкамі, у якіх растуць белыя і ружовыя лілеі. Фантан. Зялёная агароджа з туі, якую трэба падстрыгаць кожныя 2-3 тыдні. Вялікае мноства кветак. А за касцёлам – крыніца, вада якой мае 26 каштоўных элементаў. Калі будзе ў каго магчымасць заглянуць у гэтую вёску, загляніце – і вы не пашкадуеце.

А з Крулеўшчыны цягніком прыехалі ў Маладзечна.

**Сяргей БЯЛКОЎ, кіраўнік групы.**

■ ФУТБОЛ

# Хтосьці прыходзіць, хтосьці сыходзіць

**Трохтыднёвая міжкругавая паўза для таго і прадугледжана календаром, каб каманды маглі папрацаваць на трансферным рынку, вырашыць свае кадравыя праблемы.**

**"Маладзечна-2000"**

Заключаныя кантракты да канца гэтага чэмпіянату з былымі дублёрамі варатаром Аляксандрам Вайдам (1984), абаронцамі Аляксандрам Альховікам (1982), Паўлам Пятроўскім (1984), паўабаронцам Аляксеем Антановічам (1982), нападаючым Аляксандрам Грыхуцікам (1980).

Да другога круга наступнага чэмпіянату з абаронцамі Паўлам Калінюком (1983, "Лакаматыў" – Д2), Андрэем Кандраценем (1983, "Забудова"), паўабаронцамі Дзянісам Мятліцкім (1982, "Асіповічы", Д2), Ягорам Азявам (1983, "Лакаматыў" – Д2). Да заканчэння наступнага чэмпіянату з абаронцам Максімам Невядомскім (1983, дубль), паўабаронцам Аляксеем Відруком (1980, "Забудова").

Сем футбалістаў асноўнага складу знайшлі сабе іншыя клубы. Да інфармацыі, што была раней у "РГ", ёсць адно змяненне: Міхалёў далучыўся да "Тарпеда-МАЗа" і склаў там разам з Бычкоўскім, Мігасам, Кабельскім, Вяжэвічам і Дзямідчыкам буйную дыяспару былых "маладзечанцаў". З Асадоўскім і Млечкам клуб развітаўся па сваёй ініцыятыве.

**Дубль**

Далучыліся абаронцы Юрый Марцінкевіч (1985, маладзечанская ДЮСШ), Сяргей Лужынскі (1986, ДЮСШ), паўабаронцы Мікалай Татун (1980, "Забудова", служыў у арміі), Юрый Леановіч (1986, ДЮСШ), нападаючыя Вадзім Дормін (1982, Смалявічы), Юрый Сергіевіч (1986, ДЮСШ).

**"Смаргонь"**

Заключаныя кантракты з чатырма легіянерамі, якіх прывёз новы трэнер, абаронцамі Вадзімам Сайфудзінавым (1973), Ліліанам Кодай (1978), паўабаронцамі Вадзімам Налівайкам (1974), Яраславам Жарковым (1975), з чатырма навічкамі з нашай краіны паўабаронцам Русланам Жачко (1980, летась выступаў за "Трактар", Д3), нападаючымі Уладзімірам Казловым (1974, летась выступаў за "Трактар", Д3), Аляксандрам Мяцям (1981, "Лакаматыў" – Д2), Дзмітрыем Міхадзюком (1983, Жодзіна).

Адзаяўленыя Карабінскі, Максіменка, Сілін. Будуць лячыцца да наступнага сезона Байда, Ваўчок, Дзігілевіч, Шэўчык, Чарнуха.

**"Забудова"**

Далучыліся да складу абаронца Кірыл Анісімаў (1982, Смаленск), паўабаронцы Аляксандр Міхееў (1971, Жодзіна), Міхаіл Вярэшня (1981, "Камунальнік" – Д2) і вядомы па мінулым сезоне нападаючы Віктар Урублеўскі (1976, МТЗ-РІПА).

На дапамогу "Маладзечна-2000" адпраўленыя Кандраценя і Відрук, няма ўжо ў складзе Мядзведзева і Мартынава.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



# ВІНШАВАНКІ

**Тамару Міхайлаўну Філістовіч** з Маладзечна віншуем з юбілеем! Желаем счастья и здоровья, желаем бодрости и сил, чтоб каждый день обычной жизни одну лишь радость приносил. *Прасняковы, Аржынская.*

Паважаная **Тамара Міхайлаўна Філістовіч**, віншуем цябе з юбілеем! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы. Желаем много здоровья и смеха, улыбок, радости, успеха. Хотим, чтоб жизнь была полна любви, светла и счастья. Чтоб не было бы никогда в душе тоски или несчастья. *Сям'я Харэвак.*

Віншуем з 50-годдзем **Тамару Міхайлаўну Філістовіч**! В приливе вдохновения в сей славный день и славный час позвольте з днём рождения от всей души поздравить Вас! *Наташа з сям'ёй.*

**Тамару Міхайлаўну Філістовіч** з Маладзечна віншуем з 50-годдзем! Няхай вам сонца смяецца, няхай вам усё ўдаецца, жадаем вам шчасця, здароўя без лекаў, дабра і спакою, і доўгага веку. *Каркоцкія.*

**Таццяна Генадзьеўна Дуйнова**! В день рожденья для тебя пусть светит солнышко любя! *Сям'я Гапановічаў.*

**Мама Таня**! Мірнага неба, духмянага хлеба, крынічнай вады і ніякай бяды. *Сынок Ігарок.*

Віншуем **Уладзіміра Цішко** з 50-годдзем! Жадаем здароўя, стрыманасці. *Жонка, дзеці.*

Віншую з 60-годдзем хросную маці **Галіну Яфімаўну Дубовік**! Шчасця, здароўя, дабрабыту, усяго найлепшага. *Тамара і яе сям'я, сястра Яўгенія.*

З 20-годдзем віншуем мілую медыцынскую сястрычку з дз/с №5 г. Вілейкі **Вольгу Васільеўну Кажуру**! Кахання і ўдачы! *Калектыў.*

Дарагога, любімага мужа і татачку **Ігара Віктаравіча Дубяневіча** віншуем з 25-годдзем!



Няхай жыццё квітнее
буйным цветам,
І нараджэння дзень
прыходзіць зноў і зноў.
А доля няхай дорыць
з кожным годам
Здароўе, шчасце, радасць і любоў.
Няхай заўсёды Бог аберагае
Ад зла, хваробы і журбы
І ласку шчодра пасылае
Сёння, заўтра і заўжды.
*Жонка Наташа і сын Мікітка.*

Любімага мужа і татачку **Аляксандра Аляксандравіча Лапко** з Маладзечна сардэчна віншуюць з юбілеем *жонка Святлана і сын Мікалай.*

Паважаны **Уладзімір Яўгенавіч Чудакоў**! Шчыра і сардэчна віншуем Вас з днём нараджэння!
Пусть будет в жизни всё, как есть:
Любовь, уверенность, надежда,
Движенье к цели и удача,
А сердце – добрым и горячим.
Желаем радостей земных,
Тепла друзей, любви родных,
Желаем счастья, светлых дней,
Здоровья – что всего ценней.
*Сябры.*



# ЗНАЁМСТВЫ

Урач, 55/172/77, шукае жонку 37-43 гады, худзенькую, прыгожую, рост 156-163 см, з 1 дзіцем. Мінск-92, да запатрабавання, Мікалай Васільчанка.

Пазнаёмлюся з жанчынай для стварэння сям'і (пажадана з Вілейкі). Пра сябе: 33/176/76. Вілейка, галоўпаштамт, МС №0210282.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Пірог з цыбуляй

Цеста: 125 г маргарыну, 3 лыжкі смятаны, 1 шклянка мукі, соль на смак. Замясіць і паставіць на 1 гадзіну ў халадзільнік. Зрабіць начынку: 6 вялікіх цыбулін падсмажыць на алеі да залацістага колеру, насыпаць па 0,5 лыжачкі солі цукру, чорны і чырвоны перац на смак. Зрабіць заліўку: 4 яйкі, чырвоны перац, 1 шклянка добрай смятаны. Пакласці цеста ў патэльні на ўзроўні борцікаў, выкласці на яго начынку, затым акуратна заліць заліўкай. Выпякаць 20 хвілін на моцным агні, затым 20 хвілін на малым. Пірог рэзаць гарачы, а есці халодны.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 34

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

■ СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА

# Заява Беларускай асацыяцыі журналістаў

Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пасля апошняга судовага пасяджэння па справе журналістаў газеты "Пагоня" распаўсюдзіла заяву:

"15 жніўня судовая калегія па крымінальных справах Гродзенскага абласнога суда пакінула прыгавор у адносінах журналістаў гродзенскай газеты "Пагоня" Мікалая Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Яны прызнаны вінаватымі ў паклёпе на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (артыкул 367 Крымінальнага Кодэксу). У сувязі з прыняццем Закона аб амністыі тэрмін прызначанага ім пакарання зніжаны на адзін год.

Прысуд М.Маркевічу і П.Мажэйку з'яўляецца небяспечным прэцэдэнтам, які можа прывесці да шырокамаштабнага праследавання незалежных СМІ і журналістаў. На 11 верасня 2002 года назначана слуханне крымінальнай справы супраць галоўнага рэдактара незалежнай газеты "Рабочы" Віктара Івашкевіча. Ён абвінавачваецца ў спробе паклёпу і абразы кіраўніка дзяржавы.

Наступным крокам улады можа стаць крымінальны працэс супраць вядомага палітыка Анатоля Лябедзькі. Ён таксама абвінавачваецца ў паклёпе на А.Лукашэнку.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь склалася сітуацыя, калі любыя крытычныя выступленні ў адрас высокапастаўленых чыноўнікаў могуць быць расцэнены як злачынствы.

Між іншым, інфармавانасць грамадзян аб дзейнасці ўладных структур з'яўляецца неабходнай умовай дэмакратычнага развіцця грамадства. Праз незалежныя СМІ забяспечваецца адкрытасць улады, рэалізуецца дыялог, які прыводзіць да разумення і згоды ў краіне.

Улічваючы сур'ёзнае абвастрэнне адносін улады і прэсы, ГА "БАЖ" выступае з ініцыятывай аб правядзенні агульнанацыянальнай кампаніі за скасаванне артыкулаў 367 "Паклёп на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", 368 "Знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" і 369 "Знявага прадстаўніка ўлады". Прымяненне гэтых артыкулаў вядзе да скарачэння крытычных выступленняў у СМІ, бескантрольнасці дзяржаўных чыноўнікаў, падмене свабоды слова свабодай прапаганды".

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ГАНДАЛЬ

## На калгасным рынку будзе кілбасны павільён

**МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні на рынку райспажыўтаварыства бурылі малочныя павільёны.**

Па інфармацыі, якую мы атрымалі з адміністрацыі рынку, на месцы чатырох малочных павільёнаў запланавана будаўніцтва аднаго кілбаснага на 54 гандлёвыя месцы. Новы павільён павінен запрацаваць не пазней за 1 снежня.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



**Маладзечна, калгасны рынак, 21 жніўня.** Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

■ МАЛЫ БІЗНЕС

## У Валожыне быў кніжны голад

**ВАЛОЖЫН. Маладзечанская прадпрымальніца Іна Трыфілава разгарнула гандаль друкаванай прадукцыяй у раённым Доме культуры.**

Усё карыстаецца вялікім попытам. Раней кнігі можна было набыць толькі ва універмагу райспажыўтаварыства. А там асартымент невялікі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

## Студэнцкая кулінарыя

Справа была ў Горацкай сельгасакадэміі. Там на эксперыментальных участках студэнты-аграномы вырошчвалі агародніну і для свайго асабістага стала. У той год асабліва радавала будучую вясковую інтэлігенцыю капуста. І не дзіва, бо дзеля яе быў задзейнічаны ўвесь навуковы і разумовы патэнцыял студэнтаў. Уласны страўнік, гэта ж табе ні які-небудзь залік! Адказнасць проста не параўнальная! Але мары па сытую зіму ў інтэрнаце з квашанай капусткай раніцай і вечарам развеяліся ў адну ноч – ураджай сабралі мясцовыя жыхары.

Роспачы аграномаў не было канца. Але ці ёсць такая сітуацыя, з якой студэнты не знойдуць выйсця? Праз колькі часу на гэтым полі з'явілася вялізная аб'ява: "Таварышы! На гэтым полі вырошчваўся адмысловы ядавіты сорт капусты дзеля перманентнага знішчэння ўсіх яе шкоднікаў. Хто ўжо паспеў да з'есці, тэрміновa падыходзьце да інтэрната для вакцынацыі! Прафком, студком. Адміністрацыя". У наступную раніцу пад плакатам ляжала гара зрэзаных і вернутых качаноў. Зімовую сесію выратавалі, а гісторыю гэтую да сённяшняга часу перадаюць у сельгасакадэміі з пакалення ў пакаленне.

**Алег БЯГАНСКІ.**

## Дзень адчыненых хлявоў

Неяк у курылцы адзін рабочы нашага цэха праявіў незвычайную дасведчанасць пра дабрабыт членаў свайго дачнага кааператыву.

Гэты "Каперфільд" ведаў, дзе, што і як доўга ў каго стаіць. Засыпалі мы яго пытаннямі, і наш чалавек-рэнтген мусіў прызнацца. Папрасілі, маўляў, аднойчы суседзі прынесці ім з завода добры замок (а наша брыгада рабіла вісячыя замкі). Потым прасілі суседзі суседзяў і іншыя людзі. У рэшце рэшт гэты вынаходнік забяспечыў замкамі ўвесь дачны пасёлак. Замкоў было шмат, але ўсе яны былі... пад адзін ключ. Проста і з густам.

**Алег БЯГАНСКІ.**

■ НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

## Завяшчанне суседа

Калі ў нашым доме хто-небудзь памірае, звычайна суседзі дапамагаюць, хто чым можа. А паколькі ўсе адзін аднаго ведаюць, дапамагаюць і грашыма, якія збіраюць асабліва ініцыятыўныя суседкі. Усе даюць, бо адмаўляць – грэх.

Ну і адмоўная навіна на лаўках ля пад'езда – навіна. Старыя абмяркоўваюць, хто памёр, калі хто збіраў, па колькі... Сусед з палачкай слухаў-слухаў дый кажа:

– Калі я памру, мне каб гэтых складкаў не было. Што ж я сам на пахаванне не зарабіў? Каб людзей турбаваць?!

Вострая на язык суседка падхапіла:

– Ага! Табе б хацелася, каб зараз мо' скінуліся? Як жывы?

Сусед, заківаўшы, згадзіўся:

– А што! Грошы хоць пайшлі б да толку. Я ж хоць суседзяў пазваў бы. Ды такі б баль закаціў! З песнямі ды танцамі! А то ж надта сумна пасля – ляжы і не варушыся. І спяваць не будзе каму. Так што, бабы, вы мне цяпер на пахаванне збірайце, а як памру – непатрэбныя мне будуць ужо вашыя грошы.

І ён пасунуўся дахаты, паціху аддаючы распараджэнні занадта языкастым суседкам. А я ў думках пажадаў яму здароўя. За такі погляд на рэчы.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**



■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Нягледзячы на тое, што мінулае заданне было з памылкай (на самой справе лозунг гучыць "Мой дом – моя крепость, её ванная – её..."), **Юрый Юхневіч** і **Яўген Кубракоў** далі правільны адказ – слабасць.

Віншую пераможцаў і прашу прабачэння ва ўсіх аматараў нашага конкурсу.

Наступнае заданне. За 4,5 мільёна гадоў існавання Зямлі **ЁН** паспеў пабываць ва ўсіх яе кропках. Быў **ён** і ў тым месцы, дзе вы знаходзіцеся цяпер. Вызначыць яго даволі проста. Назавіце **ЯГО**.

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 3 верасня, 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет на дваіх на фільм у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**23 жніўня**
**Праваслаўныя**: Агапіта, Лаўрэнція, Рамана.
**Каталіцкія**: Ружы, Апалінара, Піліпа.

**24 жніўня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Васіля, Максіма, Фёдара.
**Каталіцкія**: Барталамея, Ежы.

**25 жніўня**
**Праваслаўныя**: Аляксандра, Капітона, Памфіла.
**Каталіцкія**: Луізы, Людвіка.

**26 жніўня**
**Праваслаўныя**: Іпаліта, Максіма, Ціхана.
**Каталіцкія**: Зефірыны, Марыі, Люцыі.

**27 жніўня**
**Праваслаўныя**: Аркадзя, Маркела, Міхея, Фядоса.
**Каталіцкія**: Монікі, Юзафа.

**28 жніўня**
**Праваслаўныя**: Прачыстая (Успенне Божай Маці).
**Каталіцкія**: Патрыцыі, Аляксандра, Аўгусціна.

**29 жніўня**
**Праваслаўныя**: Дзяміда.
**Каталіцкія**: Сабіны, Яна.

